**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# РЭЗАЛЮЦЫІ

## XIV-АЙ СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

### I.

## RESOLUTION

**Resolved that the Byelorussian language be included in Voice of America programming.**

The aforementioned Resolution to be adopted by the 14th Bienial Convention of the Byelorussians of North America in Cleveland, Ohio, on August 31, 1980.

The Byelorussian-American communities of the United States are convinced that U.S. national security interests and world peace are well served when captive nations within the Soviet Union are informed of the nature of Soviet expansionism and the vitality of their respective cultural heritage in the United States. Indeed, these are major objectives of Voice of America broadcasts. For years, however, Byelorussians in the Soviet Union have not heard any VOA broadcasts in their own language, in spite of numerous requests presented to the State Department pointing out that there is an acute interest among the ten million Byelorussians of the Soviet Union for the outside world, especially in times of international tensions, as the case is now in connection with the Soviet intervention in Afghanistan and the Polish crisis.

We, the American-Byelorussian participants of this Convention call attention to the following facts:

Over one million American citizens have relatives among at least twenty-five percent of the Byelorussian S.S.R.'s ten million people. For many in Byelorussia their blood relationship with Americans is enhanced by ideological considerations. America to them is a land of expectations achieved and promises kept. The letters, photographs, and gifts exchanged with the relatives in the U.S.A. only confirm their vision of this country and its opportunities for working men and women.

In recent years, an increase in personal contacts between the citizens of the United States and Byelorussia — which has been aptly described as "the western Gate" to the Soviet Union — has strengthened the impact of America on the people of Byelorussia.

The Byelorussian language, however, the language of one of the largest ethnic groups in the U.S.S.R. and one of the oldest ethnic groups in the United States, is being discriminated against by the Voice of America as it does not include this tongue in its programming.

We wish to once again express our long-standing frustration at this discrimination; we ask that the administration of the VOA and other concerned government agencies recognize the inequity and unsoundness of VOA policy in this matter and move to include the Byelorussian language in VOA programming. Inclusion of the Byelorussian language in VOA broadcasts would foster closer relations between the Byelorussian people and the United States of America.

Вышэй падаецца ангельскі тэкст Рэзалюцыі XIV-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, каб беларуская мова была ўлучаная ў праграмы „Голасу Амэрыкі".

### II.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**аднадушна прынятая на 14-й штодвухгадовай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў гор. Кліўленьдзе, штат Агаё, 31.VIII.1980 г.**

Сяньня, калі на парадку дня па ўсім сьвеце войстра стаіць пытаньне правоў і свабоды чалавека ды правоў і свабоды народаў, калі дзесяткі былых каляніяльных народаў, здабыўшы незалежнасьць, вядуць сваё дзяржаўнае будаўніцтва, у вапошняй каляніяльнай імпэрыі сьвету, у СССР, гэтым самым часам праводзіцца далей фізычны й духовы гвалт над чалавекам і над народамі, у тым ліку й над Народам Беларускім. Расейскі імпэрыялізм ператварыў Беларусь у крыніцу людзкіх і матар'яльных рэсурсаў, якія Масква выкарыстоўвае, каб праводзіць збройную інтэрвэнцыю ў Афганістане, каб мацаваць сваю ваенную пазыцыю ўздоўж кітайскае мяжы ды рыхтаваць агрэсію супраць кітайскага народу, каб аплачваць збройную інтэрвэнцыю Віетнаму ў Кампучыі, каб кідаць вялікія грошы на прапаганду й зброю дзеля ўздыманьня забурэньняў у іншых краёх, а цяпер яшчэ — і каб трымаць пад пагрозай ужыцьця ваеннай сілы польскіх забастоўшчыкаў-працоўных.

Расплачвацца за ненасытныя апэтыты валадароў Крамля мусіць, разам зь іншымі паняволенымі Масквой народамі, і Народ Беларускі коштам нізкога ўзроўню матар'яльнага й культурнага жыцьця, суправаджанага гвалтам над прыродным правам народу разьвіваць свае нацыянальныя традыцыі, тварыць свае культурна-духовыя вартасьці ды пераказваць іх свайму маладому пакаленьню.

Русыфікацыя ў Беларускай ССР дайшла да таго, што ў шмат якіх галінах адміністрацыйнага й культурнага жыцьця Беларускае рэспублікі цяпер немагчыма карыстацца роднай мовай. Ад беларускае моладзі сяньня адабраная магчымасьць вышэйшае, сярэдняе, а ціраз і пачаткавае адукацыі ў роднай мове. Грубы гвалт над асноўным правам чалавека — карыстацца сваёю мовай на сваёй зямлі — гэта асабліва яскравы прыклад генацыду, асуджанага міжнароднай канвэнцыяй, якую падпісаў і савецкі ўрад ды якую ўвесь час аблыжна ломіць..

Дзе чалавек у няволі, там ня можа быць свабоды й народу, дзе паняволены народ — няма свабоды чалавеку. Неадлучнасьць правоў чалавека ад правоў і свабоды народу — факт прызнаны ў вольным сьвеце. Там-жа, дзе, як у Савецкім Саюзе, за абарону сваіх індывідуальных ці нацыянальных правоў улада кідае чалавека ў псыхіятрычныя шпіталі, турмы ці канцэнтрацыйныя лягеры, у турме там і ўвесь народ, і гэта не „саюз", а турма народаў.

Увасабленьнем змаганьня з гэтай турмой ад імя Беларусаў сталіся сяньня беларускі іншадумец Міхал Кукабака, які адбывае турэмнае пакараньне ў Наваполцку, ды іншыя беларускія іншадумцы. Удзельнікі 14-е Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі заклікаюць урады ЗІША і Канады паспрыяць вызваленьню Міхала Кукабакі з турмы ды выезду яго, як і іншых палітычных вязьняў зь Беларусі, што адмовіліся ад савецкага грамадзянства, у Амэрыку або Канаду.

# ШТО КАЖАЦЦА ПРА СТАТУТЫ ВКЛ У БССР?

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

га не сказана). Адзначаны таксама ў Энцыкляпэдыі ўплыў Статуту 1588 году на заканадаўства Прусіі, Расеі, Польшчы й Украіны. Падаецца таксама, што Статут у нямецкім перакладзе ўжываўся ў Лацьвіі й Эстоніі. Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя абагульняе: „Статут 1588 году — помнік старажытнае беларускае мовы й юрыдычнае думкі фэўдальнае эпохі, збор законаў 16 ст. ў Эўропе".

Няма, бадай, больш спрэчнае тэмы, як гістарычная спадчына Вялікага Княства Літоўскага ў насьвятленьні гісторыкаў розных нацыянальнасьцяў, што былі ахопленыя гэным Княствам. Да ліку разьбежнасьцяў, якімі пазначаная інтэрпрэтацыя Статутаў ВКЛ, трэба дадаць тэрміналягічны элемэнт, уведзены апошнімі гадамі гісторыкамі савецкае Беларусі, у якім адлюстроўваецца беларускае гледзішча.

Ад пачатку 1970-ых гадоў, як пра гэта сьветчаць трэйцяе выданьне „Гісторыі Беларускай ССР", Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя й артыкулы Язэпа Юхо, раней ужываны тэрмін „Літоўскі(я) Статут(ы)" цяпер адкінуты, як гістарычна недакладны й памылкова-зводны. Адзіная форма, што ўжываецца цяпер у беларускай гістарыяграфіі, прынамся ў навуковых выданьнях, гэта — „Статут(ы) Вялікага Княства Літоўскага" або проста „Статут(ы)". Апісальны тэрмін „Літоўскі(я) Статут(ы)", уведзены недзе на пачатку мінулага стагодзьдзя польскімі, відаць, гісторыкамі, ды замацаваны практыкай ужываньня як больш выгодны стылістычна, дасюль аднак фігуруе ў трэйцім выданьні „Большой Советской Энциклопедии" (т. 14, 1973 г.), у „Советской Исторической Энциклопедии" (т. 8, 1965 г.), як быў ён і ў „Энциклопедическом Словаре" Брокгаўза ў 1896 годзе (т. XVIIA). Тэрмін „Літоўскія Статуты" ўжываецца, бадай, усімі польскімі гісторыкамі, а таксама — дзеля відавочных прычынаў — гісторыкамі літоўскімі, якія часамі намагаюцца, калі ня зусім прамоўчаць, дык абнізіць значаньне беларускага характару Статутаў.

Супольная спадчына розных нацыянальнасьцяў з далёкае мінуўшчыны жыве сяньня далей у форме слоўных супярэчак, што адлюстроўваюць новую палітычную й псыхалягічную рэальнасьць.

**Янка Запруднік**

# КАНФЭРЭНЦЫЯ ПРА СТАТУТЫ ВКЛ

450-годзьдзе першага Статуту Вялікага Княства Літоўскага 1529 году было адзначанае ў сыботу 31 жніўня сёлета канфэрэнцыяй на Кліўлендзкім Штатавым Унівэрсытэце, арганізаванай супольна Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ды ўнівэрсытэтавай Праграмай Вывучэньня Этнічнай Спадчыны. Дырэктар гэтае праграмы, д-р Караль Бануты, выдатна спрычыніўся да правядзеньня канфэрэнцыі.

На канфэрэнцыі было прачытана 12 дакладаў на тэмы, зьвязаныя з трыма Статутамі ВКЛ, пісанымі беларускай мовай зборамі законаў XVI ст., у якіх адлюстраваліся шмат якія бакі жыцьця тагачаснае Беларусі.

Канфэрэнцыя адбылася ў часе правядзеньня на беларускім селішчы „Полацку" ў Стронгсьвіле пад Кліўлендам 14-е Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Некаторыя ўдзельнікі Сустрэчы скарысталі з нагоды паслухаць даклады канфэрэнцыі.

Пасьля прывітальнага слова др. К. Бануты, які адзначыў паважны ўклад беларускае грамады ў грамадзкае й культурнае жыцьцё Кліўленду, др. Вітаўт Кіпель, старшыня першае сэсіі, перадаў слова др. Вітаўту Тумашу, старшыні БІНіМ. Др. Тумаш, гаворачы пра важнасьць справы вывучэньня Статутаў, зьвярнуў увагу на парадаксальнасьць зьявы — гэтыя выдатныя помнікі беларускае мінуўшчыны вывучаюцца сяньня ня там, дзе яны павінны былі-б вывучацца: не на Беларусі ў беларускай вышэйшай навучальнай установе, а за тысячы кілямэтраў на амэрыканскім унівэрсытэце ў Амэрыцы.

У дакладах былі насьветленыя гэткія аспэкты трох Статутаў ВКЛ 1529-га, 1566-га й 1588-га гадоў:

**Мгр. Васіль Пляскач** гаварыў пра ўплыў трох вялікіх помнікаў беларускага заканадаўства на праўныя сыстэмы суседніх краёў.

**Д-р Тэрэза Альт** з Карнэльскага Ўнівэрсытэту — пра беларускую мову Статуту 1529 году ў прыраўнаньні яе да мовы сучаснае.

**Др. Караль Фон Леўэ,** аўтар перакладу першага Статуту ў ангельскую мову — пра справу далейшага вывучэньня Статутаў, патрэбу вывучаць іх на аснове арыгіналаў, што знаходзяцца ў Савецкім Саюзе, ды якія, на думку дакладчыка, даступныя на мікрафільмах.

**Др. Вітаўт Тумаш** — пра тры асобныя кніжныя выданьні Статуту 1588 году.

**Сп-ня Зора Кіпель** — аб правох жанчынаў у Статутах ВКЛ.

**Сп-чна Алеся Кіпель,** студэнтка другога курсу Школы Права Джорджтаўнскага Ўнівэрсытэту—аб правох жанчынаў у Заходняй Эўропе ў тым самым пэрыядзе.

Даклад прафэсара Ньюёркскага Гарадзкога Ўнівэрсытэту **Томаса Бэрда,** прачытаны др. Янкам Запруднікам, быў на тэму рэлігійных правоў у Статутах ВКЛ.

Старшынём другое сэсіі канфэрэнцыі быў др. Я. Запруднік, заступіўшы праф. Т. Бэрда, які на канфэрэнцыю не здолеў прыбыць.

Даклад **сп. Міхася Белямука,** ілюстраваны на экране здымкамі, быў прысьвечаны сфрагістыцы ВКЛ, вялікакняскім пячацям і аналізу іхнае сымболікі, пытаньню зусім занядбанаму ў савецкай гістарыяграфіі.

**Сп. Барыс Данілюк** гаварыў пра справы войска й ваеннае абароны ў трох Статутах ВКЛ.

**Сп-ня Галіна Русак** — пра рэгуляваньне Статутамі прыродных багацьцяў, даволі шырока адлюстраванае ў Статутах.

**Др. Янка Запруднік** — аб стане веды пра Статуты ў сучаснай Беларусі (гл. асобны артыкул у гэтым нумары газэты).

**Др. Вітаўт Кіпель** даў аналіз бібліяграфіі беларускіх дасьледнікаў Статутаў ВКЛ, адзначыўшы наяўнасьць вялікае колькасьці працаў на гэтую тэму з ранейшых пэрыядаў.

Бальшыня дакладаў была пададзеная ў ангельскай мове, колькі — пабеларуску.

Др. Я. Запруднік у падсумавальных заўвагах сказаў пра вялікую дасьледніцкую працу, прапробленую ўдзельнікамі канфэрэнцыі, ды выказаў надзею, што намер управы БІНіМ выдаць гэтыя матар'ялы асобным зборнікам будзе вялікім крокам наперад у справе вывучэньня аднаго з найцікавейшых мамэнтаў беларускае мінуўшчыны.

**А. Будзіч**

**Ад Рэдакцыі:** Поўныя справаздачы з 14-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі будуць зьмешчаныя ў наступным кастрычніцкім нумары „Беларуса".

# ТЭЛЕГРАМА

**на падтрыманьне польскіх забастоўшчыкаў, высланая цэнтральным арганізацыям польска-амэрыканскай і польска-канадзкай.**

Удзельнікі XIV-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, скліканай у Кліўленьдзе штату Огаё 30 і 31 жніўня 1980 году, выказваюць сваё падтрыманьне Палякам у іхнім змаганьні ў Польшчы супраць прыгнятальніцкага камуністычнага рэжыму за свае асноўныя людзкія правы й дэмакратычныя свабоды.

Мы жадаем удачы польскім работнікам-забастоўшчыкам, сярод якіх ёсьць польскія грамадзяне беларускай нацыянальнасьці. Кажнае паслабленьне камуністычнага ярма, накінутага Масквою на паняволеныя народы Ўсходняе Эўропы, у тым ліку Беларусь і на Польшчу служыць высака роднай справе свабоды. Гэта перакананьне Амэрыканцаў і Канадыйцаў беларускага паходжаньня, а таксама, — мы ў гэтым перакананыя, — Беларусаў у Савецкім Саюзе й у Польшчы.

**Антон Шукелойць — Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**
**Вячаслаў Касьцюкевіч — Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады**

Удзельнікі 14-е Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі сьцьвярджаюць, што адзіная зарука матар'яльнага й духовага дабрабыту беларускага народу, гэта — ягоная палітычная й гаспадарская свабода ў сваёй вольнай дзяржаве, у Беларускай Народнай Рэспубліцы, незалежнасьць якое была абвешчаная 25 сакавіка 1918 году. І змаганьне за гэтую свабоду, як і за дэмакратычныя правы й свабоду кажнага грамадзяніна беларускае зямлі — гістарычнае заданьне й патрыятычны абавязак кажнага ўдзельніка Сустрэчы, кажнага вернага свайму краю й народу Беларуса.

Кліўленд, 31 жніўня 1980 году

**УДЗЕЛЬНІКІ 14-Е СУСТРЭЧЫ**
**Беларусаў Паўночнае Амэрыкі**

# КУПАЛЬСКІ БАЛЬ У СЫДНЭІ

У гэтым годзе, як і кажнага папярэднага, Беларусы Сыднэю (Аўстралія) прыпомнілі пакінуты нам прадзедамі маляўнічы абрад Купальля традыцыйным Купальскім Балем.

Гаспадарамі балю былі сп-ня О. Тамашэўская й сп. А. Бакуновіч. Хаця абставіны былі розныя: гарадзкая заля ды штучнае вогнішча заміж мурожнага лугу з раскладзеным агнём ды рэчкі, дзе пускаліся купальскія вяночкі й адбываліся варожбы, але на балю знайшлася нашая дамарослая варожка сп-ня Г. Олрайт. Яна цікаўскім свае будучыні патрапіла яе прадсказаць так, як слухачом хацелася-б, а на дабавак дакінуць пару добрых жартаў.

Былі й расказы пра Купальле на Беларусі. Тут узяў слова д-р Язэп Малецкі. Ён-жа й прапяяў нікому няведамую дзісьненскую купальскую народную песьню.

Прысутныя маглі натанцавацца да душы, а для ахвотнікаў паесьці хапала смачна падрыхтаваных закусак — заслуга сп-ні Н. Лужынскай ды спадарынь Зуй, Гавэнчык, Пляхоцкай, Олрайт. Пра лятарэю рупілася сп-ня Хаванская.

Вечар прайшоў прыемна й весела.

**А. К-я**

## ТЭКСТЫ „МУЖЫЦКАЕ ПРАЎДЫ" Й „ЛІСТОЎ" К. КАЛІНОЎСКАГА

У выдавецтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, коштам Фундацыі ймя П. Крэчэўскага, выйшлі асобным кніжным выданьнем (72 бб.) поўныя тэксты газэты „Мужыцкая Праўда" й трох лістоў „з-пад шыбеніцы" Кастуся Каліноўскага. Дакумэнты гэтыя зьмешчаныя ў арыгінале, лацінкаю, і ў ангельскім перакладзе. Кніжка мае загаловак: „Паўстаньне на Беларусі 1863 году: „Мужыцкая Праўда' і лісты ,з-пад шыбеніцы' ". Апрацавалі яе др. Янка Запруднік і праф. Томас Э. Бэрд. Да кніжкі дададзены ўступ паангельску, уводны артыкул пабеларуску, ілюстрацыі й бібліяграфія.

Цана выданьня: 5 даляраў. Выпісаць яго можна празь Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, 3441 Tibbett Avenue, Bronx, N. Y. 10463.




© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# УЛАДЗІМЕР КАРАТКЕВІЧ У ВАБАРОНЕ

## НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГОДНАСЬЦІ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

У чырвеньскім нумары часапісу „Полымя" за сёлетні год зьявілася трагэдыя ў трох актах, трынаццаці карцінах („карцінах" — накінуты сяньня ў вабавязкавым парадку беларускай мове ў БССР русыцызм. Правільна пабеларуску ў гэтым значаньні павінна быць „абразох" — Ст. Ст.) Уладзімера Караткевіча „Кастусь Каліноўскі" з падзагалоўкам „Сьмерць і няўміручасьць". Твор гэты сваяасаблівы ў выяўленьні Караткевічавага культу Кастуся Каліноўскага, як найвыдатнейшага нацыянальнага героя Беларусі. Ведамы літаратурны крытык Адам Мальдзіс у сваім артыкуле „Пісьменьнік за рабочым сталом. Каласы з цаліны", зьмешчаным у газэце „Літаратура і Мастцтва" за 21 ліпеня 1967 году, інфармуе пра гэны „пісьмовы стол" Уладзімера Караткевіча гэтак:

„. . . галоўнае на ім — наклееныя на шэрае палатно вялізарны партрэт Кастуся Каліноўскага. Тут-жа каваны ў зялезе сьвяцільнік. Нібы агромністая кропля крыві, чырванее ў ім падфарбаваны воск. Гаспадар запальвае сьвяцільнік толькі раз у год — 21 сакавіка, у гадавіну гераічнай і трагічнай сьмерці таго, хто стаў самай вялікай любоўю Уладзімера Караткевіча, яго натхненьнем і героем яго твораў".

Сваяасаблівая вымова прыведзеных словаў Адама Мальдзіса ў тым, што Караткевічаў культ Кастуся Каліноўскага ня мог быць сумяшчальным з апошняй паэмай пра Кастуся Каліноўскага „Хамуціюс" Аркадзя Куляшова, надрукаванай перад ягонай сьмерцай у лютым 1978 году. Паэма гэтая зьявілася ў верасеньскім, кастрычніцкім і лістападаўскім нумарох часапісу „Полымя" ў 1975 годзе. Вось-жа сярод усіх не малога ўжо ліку твораў мастацкай літаратуры пра Кастуся Каліноўскага й ачольванае ім паўстаньне 1863 году паэма „Хамуціюс" б'е ўсе рэкорды ў хвальшаваньні гістарчынай праўды наўсуперак агульна ведамых гістарычных фактаў. Гэта адзначым найбольш зыркія мамэнты гэтых хвальшаваньняў.

Гэта перш-наперш спроба разгляданьня Куляшовам Кастуся Каліноўскага, як змагара міжнароднага рэвалюцыйнага руху. Навет ягоная каханая Марыська, якая ўспыймалася дасюль аб'ектыўнымі гісторыкамі, як алегарычны вобраз Беларусі, у паэме Куляшова апынаецца на барыкадах Парыжа, як змагарка за справу Парыскай Камуны, за якую стаіць поплеч з былым супрацоўнікам Кастуся Каліноўскага Валерым Урублеўскім. Што Валеры Ўрублеўскі апыніўся на барыкадах Парыжа — гэта факт гістарычны й цалкам зразумелы ў аспэкце ўсяе дзейнасьці Ўрублеўскага яшчэ ў паўстаньні Кастуся Каліноўскага. Затое ідэйны й палітычны профіль Кастуся Каліноўскага зусім іншы. Як ведама зь гісторыі, Кастусь Каліноўскі наважана й перакanana змагаўся за вызваленьне Беларусі ня толькі сацыяльнае, але й нацыянальнае ды нат палітычнае, будучы гарачым прыхільнікам самастойнае беларускае дзяржавы, у роўнай меры незалежнай ад Масквы й ад Варшавы. І зусім тэндэнцыйная й супярэчная гісторыі спроба Куляшова зьвязаць дзейнасьць Кастуся Каліноўскага з пазьнейшай ленінскай ідэяй сацыяльнае рэвалюцыі.

Больш таго! Аркадзь Куляшоў плянаваў напісаць новыя творы, прысьвечаныя ўслаўленьню ведамага ката рэвалюцыі — першага чэкістага Фэлікса Дзяржынскага й наагул услаўленьню савецкіх чэкістых. Але на шчасьце ягоная сьмерць у лютым 1978 году выратавала беларускую мастацкую літаратуру ад жахлівага ейнага зганьбаваньня.

Дык зразумела, што гарачы паклоньнік Кастуся Каліноўскага — Уладзімер Караткевіч ня мог дазволіць, каб партыйны ня толькі за страх, а й за сумленьне паэта Аркадзь Куляшоў пакінуў у нашай літаратуры сваё апошняе й вульгарна хвальшывае слова пра Кастуся Каліноўскага. І Ўладзімер Караткевіч не дазволіў гэтага, бліскучым довадам чаго ягоная сёлетняя трагэдыя „Кастусь Каліноўскі". Можна навет падумаць, што калі-б не „Хамуціюс" Аркадзя Куляшова, дык у Ўладзімера Караткевіча не зьявілася-б і думкі выступіць сёлета із сваёй трагедыяй „Кастусь Каліноўскі", бо для належнага выяўленьня свайго культу Кастуся Каліноўскага хапіла-б і таго, што сказана ў ранейшых Караткевічавых творах, галоўна ў рамане „Каласы пад сярпом тваім".

У сваёй аўтабіяграфіі, зьмешчанай у аўтабіяграфічным зборніку беларускіх пісьменьнікаў „Пра час і пра сябе" 1966 году, Уладзімер Караткевіч пісаў: „Пасьля двух год перапынку здаў у „Полымя" новы свой раман „Каласы пад сярпом тваім". Здаў першы том. Другі ня выпускаю з рук, дапрацоўваю. Пастараўся заплаціць гэтай кнігай доўг Дняпру, людзям паўстаньня 1863 году, Беларусі.

Калі-б мне ўдалося пасьля „Каласоў" напісаць некалькі раманаў і аповесьцяў і давесьці дзею да нашых дзён, я-б лічыў, што справа жыцьця зроблена. Але да гэтага так далёка! Трэба працаваць. Не для сябе, а для маёй роднай краіны, для Беларусі, якой, калі дазволіць лёс, я паслужу, колькі будзе дадзена дзён, — многа або мала, але да канца".

На колькі дазваляюць рамы газэтнага артыкулу, пастараемся расшыфраваць некаторыя важнейшыя мамэнты сымболікі Ўладзімера Караткевіча, бо ў сваёй цэласьці ягоная сёлетняя трагедыя „Кастусь Каліноўскі" твор наскрозь сымбалічны, а ягоныя пэрсанажы—гэта алегарычныя вобразы абагульненых зьяваў, што мелі месца ў часе дзеі твору. Караткевічаў твор пачынаецца маналёгам Жанчыны — алегарычным вобразам Беларусі, якая, між іншым, кажа:

Я — Беларусь... Я —
чорная зямля...
Я — маці ўсіх дзяцей маіх.
І ўсіх гасьцей, што прыйдуць
з добрым словам
На берагі маіх празрыстых рэк.
Нямнога, пэўна, знойдзецца такіх,
Што злом мяне успомняць.
Толькі тыя,
Што сьмерць прыносілі ў мае палі
І зараз сьпяць на дне маіх
курганаў.
Я — перад вамі... Паглядзіце...
Рукі...
Стагодзьдзі працы — шрамамі
на іх.
Я — ў чорным. Але быць-бы мне
ў барвовым
Ад рук крыві, што пацяклі
па мне...
Якой была я сьветлаю дзяўчынай!
Ў каралях арабін, ва ўборы ясным
Зь зялёнага атласу і ў сапфірах
Маіх азёр бязьмежных і крыніц.
І цар прыслаў — мяне ў рабыні
сватаць —
Сваіх паноў зь мячом, сьвінцом,
агнём...
І вось я ськінула свае уборы
І чорны плашч усклала. Ў
соты раз.
Але ў бясконцых, страшных
гэтых бедах
Не апусьціла я сваіх вачэй . . .
. . . . . . . . . . . . . .
І уявіце, што сягоньня, зараз,
Выходзяць лепшыя сыны
змагацца.
І рог гучыць. І раўкаюць гарматы.
І мужыкі, што верылі спачатку
Ў цара, цяпер за лепшымі ідуць.
Узьняўшы вілы ў зарава... І гэта
Зрабіў адзін з сыноў маіх...
Кастусь.
Сын той зямлі, што несла крыж
пакуты...

У Караткевічаву трагедыю ўведзеная прыгожая фізычна й духова постаць Караліны, як алегарычны вобраз каханьня Кастуся Каліноўскага. Вось адзін з многіх дыялёгаў між імі: **„Караліна.** Вось . . . Я зноў . . . Цяпер толькі два словы . . . Мала часу . . . Разумееш, гэта для мяне мала часу . . . Бо ты — вечны. Такіх, як ты, нельга ня любіць . . . Для ўсіх тых жанчын, што калі-небудзь, аж да канца дзён людзкіх, будуць зь нейкіх там меркаваньняў . . . кроіць сэрца такім, як ты . . . не жадаць іх адпусьціць і баяцца забыць дзеля іх усё . . . з-за спакою, з-за вартых жалю даброт . . — для ўсіх тых жанчын ніколі ня будуць цьвісьці яблыні . . . Гэта мой праклён. Праклён сапраўднай жанчыны, якая . . . стала ўдавою, не пабачыўшы жаніха . . .

**Кастусь.** Ты — бесьсьмяротная . . . Лепшая . . . Сапраўдная . . . Ты — зямля мая!"

Сымбалічная вымова гэтага дыялёгу галоўна ў тым, што Кастусь Каліноўскі дабраахвотна адмаўляецца ад высакароднага каханьня высакароднай жанчыны, а выбірае сьмерць, патрэбную, паводля ягонай думкі, для нацыянальнай ідэі.

У творы вельмі вымоўная сцэна, калі да засуджанага на сьмерць Кастуся Каліноўскага зьяўляецца Мураўёў і прапануе яму волю ўзамен за згоду йсьці зь ім тым самым шляхам. Але Каліноўскі з пагардай адкідае ягоную ласку, кажучы: „Рэнэгат. Вам трэба для заспакаеньня рабіць другіх падобнымі да сябе . . . Але я гэтага . . . апошняга . . . вам не падару, **граф-вешальнік**". Гісторыя нічога ня ведае пра гэтую прапанову Мураўёва. Значыцца, маем тут мастацкую выдумку, якая зусім лягічная, бо падчыркае ідэйнасьць Каліноўскага: ён выбірае сьмерць за ідэю, адкідаючы з агідай прапанаваную яму здраду.

Трагедыя канчаецца маналёгам Кастуся Каліноўскага. У маналёгу гэтым расшыфроўваецца сымболіка падзагалоўка Караткевічавага твору „Сьмерць і няўміручасьць":

Вялікі мой народ, зямля мая.
Гняздо пакут, змаганьня і
свабоды.
Зямля маіх нябёс, маёй каханай,
Маіх сяброў, маёй сьпявучай
мовы...
Я толькі што памёр. І ў гэты час
Аддаў табе, зямля, сябе самога,
Каб ведала, як я цябе люблю.
Аддаў азёрам — вочы, чуб —
ільнам,
Сьмех — ручаінам, песьні —
цёмным пушчам,
Закатам — кроў, мужыцкім
бунтам — гнеў.
А душу — кожнаму з братоў
сапраўдных,
Каб кожны меў хоць трохі
ад мяне.
Што бачу я ўдалечыні? Пажары,
Паўстаньні, сечы, зарыва,
нашэсьці.
Меч ворага амаль ля сэрца
пройдзе,
Ты будзеш паміраць. Ды
толькі ведай,
Бясьсьмертны ты, як фэнікс,
мой народ...

Гэтак вось сымбалічна выказаная думка-ідэя, што гераічная сьмерць Кастуся Каліноўскага была патрэбная па тое, каб бясьсьмертным стаўся беларускі народ. Як бачым, трагедыя „Кастусь Каліноўскі" — гэта найвышэйшае выяўленьне й дэманстрацыя беларускага патрыятызму, найглыбейшай ягонай любасьці Беларусі, найвышэйшай самаахвярнасьці для народу. Гэткім парадкам, сёлетняя трагедыя Ўладзімера Караткевіча „Кастусь Каліноўскі" — завяршэньне беларускага патрыятызму й ягонага культу Кастуся Каліноўскага.

**Ст. Станкевіч**

# БЕЛАРУСКАЯ РЭПРЭЗЭНТАЦЫЯ Ў ВАШЫНГТОНЕ

Гэтым разам у сталіцы ЗША было ўзапраўды горача: тэмпэратура паводля Фарэнгэйта дайшла да 102 градусаў ды трэба было вашынгтонцам дапамагчы ў арганізацыі выставак (у асноўным дапамога матарыялам). Нагода выстаўкі — адзначэньне Тыдня Паняволеных Народаў, якое ў Вашынгтоне адбывалася 20 і 21 ліпеня і ў якім вось ужо другі год падрад Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне прыймае ўдзел.

Сёлетняя выстаўка была ладжаная ў Дзяржаўнай Аўдыторыі якраз насупраць Музэю Тэхналёгіі й Навукі. Месца надзвычайнае. Беларуская выстаўка займала тры стэнды, два зь якіх былі адведзеныя для беларускага народнага мастацтва, а трэйці для газэты „Беларус" ды іншыя выдавецтвы. Было падабрана нямала матарыялаў англамоўных пра Беларусь. Быў апрацаваны таксама спэцыяльны памфлет пра Беларусь, які раздаваўся наведвальнікам.

Мы былі гасьцьмі, бо гаспадарамі выстаўкі былі вашынгтонцы: сп-ня Ніна Кіт і сп-чна Алеся Кіпель. Бадай блізу 10 гадзінаў гаспадары расказвалі наведвальнікам пра Беларусь ды давалі цэлыя лекцыі зь беларускага народнага мастацтва. Надзвычай прыемным было й тое, што праз цэлы дзень на выстаўцы граліся беларускія мэлёдыі: то ў выкананьні Данчыка Андрусышына, то Хору „Каліна", то „Песьняроў".

На наступны дзень, у нядзелю 21 ліпеня, Беларусы прынялі ўдзел у экумэнічнай службе ў катэдры Сьв. Мацьвея, дзе былі адзначаныя асноўныя даты ў гісторыі паняволеных народаў, як угодкі 25 Сакавіка ў Беларусаў, а потым агульная маніфэстацыя. Выдатнай дапамогай у нядзелю былі Беларусы із штату Мэрылэнд, а перадусім інж. Васіль і Долёрэс Мельяновіч, а таксама дочкі Мельяновіча.

Наагул трэба адзначыць, што наш удзел у Тыдні Паняволеных Народаў у сталіцы ЗША быў вельмі ўдалы: Вашынгтон пачынае прывыкаць, што ў горадзе дзеіць беларуская арганізацыя.

**Зора Кіпель**

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ Ў ДЭТРОЙЦЕ

Найвялікшая сёлетняя дэманстрацыя пры адкрыцьці Тыдня Паняволеных Народаў у ЗША адбылася ў Дэтройце ў нядзелю 13 ліпеня. Яна была зарганізаваная Нацыянальным Камітэтам Паняволеных Народаў. Дэтройт быў выбраны таму, што ў гэтым горадзе на наступны дзень мелася адкрыцца канвэнцыя Рэспубліканскае Партыі для прыняцьця праграмы й выбару кандыдата на прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў.

На гадзіну першую папаўдні ў Кэнэды Сквэры, адлеглым тры мілі ад Рэнэсанс Цэнтру, зьбраліся асноўныя групы, якія ў альфабэтычным парадку із сваімі транспарэнтамі, сьцягамі й плякатамі разьмясьціліся вялікім колам перад трыбунай. Наступныя групы ў сваіх нацыянальных касьцюмах і вэтэранскім ці цывільным адзеньні із сьцягамі прынялі ўдзел: Альбанцы, Беларусы, Баўгары, Мадзяры, Палякі, Казакі, Славакі, Эстонцы, Латышы, Лятувісы й Украінцы.

Цырымоніямі на пляцы кіраваў судзьдзя Джон Гойзнэр. Пасьля амэрыканскага гімну галоўную інвакацыйную малітву прачытаў Высокапачэсны Архіяпіскап Мікалай з БАПЦ. У ходзе праграмы былі прачытаныя праклямацыі, насамперш Прэзыдэнта ЗША Джымі Картэра, а пасьля сп. В. Г. Мілікэна, губэрнатара штату Мічыгэн. Гэтымі праклямацыямі тыдзень ад 13-га да 20-га ліпеня быў абвешчаны Тыднем Паняволеных Народаў у ЗША Прэзыдэнтам Джымі Картэрам і губэрнатарамі бальшыні штатаў. З прывітаньнямі й прамовамі выступалі: губэрнатар штату Мічыгэн В. Г. Мілікэн, кангрэсмэн Эдвард Дэрвінскі, Леў Дабранскі, старшыня Нацыянальнага Камітэту Паняволеных Народаў.

Апошні прамоўца кангрэсмэн Э. Дэрвінскі падчыркнуў вельмі важны мамэнт, што патрэбна, каб наступная адміністрацыя Амэрыкі з нававыбраным прэзыдэнтам зрабілі вызваленьне паняволеных камуністычнымі імпэрыямі народаў складовай часьцяй амэрыканскай палітыкі ды каб намаганьні іхныя спрычыніліся да таго, каб лік паняволеных народаў меншаў, а не ўзрастаў, як дагэтуль.

Падчас чытаньня праклямацыяў і прамоваў побач трыбуны з праклямацыямі ў руках стаялі чатыры жанчыны й дзяўчаты, дзьве зь якіх Беларускі — Ірэна Каляда й Оля Лукашэвіч з Кліўленду.

Губэрнатар Рональд Рэген, які, як выглядае, мае добрыя шансы быць наступным прэзыдэнтам ЗША, прыслаў прывітаньне й асабіста выступіла двое ягоных дзяцей — сын Майкал і дачка Маўрын. У сваіх кароткіх прывітаньнях яны выказаліся, што Амэрыка павінна ад наступнае восені, г. зн. ад прэзыдэнцкіх выбараў, узмоцніцца, як галоўны бастыён вольнасьці на цэлым сьвеце, бо толькі гэткім чынам можа яна й павінна спрычыніцца да вызваленьня паняволеных Масквою народаў.

У духу выказваньняў прамоўцаў і гасьцей былі пасьля аднагалосна прынятыя рэзалюцыі. Наступным пунктам праграмы быў паход. Даўгая калёна накіравалася ўніз, па Вудвард эвэню, пад Джо Люіс арэну, дзе мелася адбывацца рэспубліканская канвэнцыя, і пасьля завярнула назад на Кэнэды сквэр. Па вуліцы, ідучы асобнымі нацыянальнымі групамі з нацыянальнымі й вэтэранскімі сьцягамі, паход прыцягнуў увагу тысячаў людзей. Лік удзельнікаў дэманстрацыі перавысіў тры тысячы. Дэманстрацыя павінна была й здабыць вялікі рэзананс, бо прысутныя тут былі апараты ад трох амэрыканскіх тэлевізыйных сетак — АБС, НБС, ЦБС і канадыйскай СБС, а таксама й карэспандэнты галоўных агенцыяў масавай перадачы з усяго сьвету.

Вярнуўшыся на Кэнэды сквэр, пасьля прапяяньня „Божа,, багаславі Амэрыку", удзельнікі разыйшліся.

Асобна трэба сказаць пра ўдзел у дэманстрацыях беларускае групы, якая выступіла добра зарганізавана, з прыгожымі плякатамі, сьцягамі й транспарэнтамі. У асноўным наша група складалася з нашых суродзічаў з Кліўленду, Дэтройту й Таронта, пры чым кліўлендцы, у іхным ліку прыгожа апранутыя жанчыны, дзяўчаты й вэтэраны, зьявіліся у найбольшай колькасьці. Гэта тыя людзі, нашыя эміграцыйныя руплівцы, дзякуючы якім жыве, разьвіваецца, прагрэсуе й добра стаіць беларуская справа: рэлігійнае, культурна-нацыянальнае жыцьцё й палітычная праца для вызваленьня Беларусі. Вельмі важным быў і ўдзел нашага Высокапачэснага Архіяпіскапа Мікалая, які сваёй добра зрыхтаванай паангельску й выдатна прачытанай малітвай яшчэ больш павялічыў аўтарытэт беларускай групы. Вялікая заслуга й д-ра Язэпа Сажыча, што ўклаў шмат працы для падрыхтоўкі ўдзелу Беларусаў ды ў нацыянальнай вопратцы прыняў удзел у дэманстрацыі й паходзе. Вялікая падзяка належыцца й спву Кумэйшам за добра падрыхтаваны імі, на скорую руку, абед, які свае й госьці спажылі пад царквой Сьвятога Духа пасьля Божае Службы, у якой удзельнічалі Архіяпіскап Мікалай, а. Страпко й а. Максім.

**К. Акула**

# „ВІХОР" РЭПРЭЗЭНТУЕ БЕЛАРУСКУЮ МУЗЫКУ

Упяршыню беларускае грамадзтва пазнаёмілася з ансамблем „Віхор" на трэйцім беларускім фэстывалі летась. Усе, хто быў на фэстывалі, добра памятае й „Перапёлачку", і „Фэстывальную беларускую фантазію" ды іхных выканальнікаў Валерага Новака й Генадзя Гуткіна.

З тае пары час-часом у друку зьяўляліся заценмкі, што „Віхор" выступаў зь беларускай музыкай шмат дзе. Дарэчы зазначыць, што „Віхор" цяпер узрос колькасна, бо далучылася да яго здольная музывыдатна папулярызуе беларускае рэпэртуару Ларыса Новак. Але ў 1980 годзе „Віхор" бадай стала выступае зь беларускімі праграмамі й выдатна апапулярызуе беларускае музычнае мастацтва. Гэтак у лютым „Віхор" выступаў на этнічным балі нацыянальных групаў у горадзе Эдысон штату Нью Джэрзі. У чырвені „Віхор" быў запрошаны Цэнтрам Мастацтваў штату Нью Джэрзі на спэцыяльны канцэрт, які прайшоў вельмі ўдала. Выступаў „Віхор" і ў штаце Пэнсыльвэнія ды рыхтуецца да выступаў у Балтыморы й Кліўлендзе падчас XIV-е Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў верасьні сёлета.

Аднак дасюль бадай найлепшым выступам „Віхра" было ў канцэрце нацыянальных спадчынаў у фэстывалі гораду Ньюварк 6 ліпеня сёлета. Фэстываль гэты быў ладжаны з нагоды Дня Незалежнасьці Амэрыкі й адбываўся тры разы: 4, 5 і 6 ліпеня. Фэстываль гэты быў вельмі шырака заплянаваны, у ім удзельнічала аж 16 нацыянальнасьцяў, у тым ліку й Беларусы, а д-р Кіпель быў сябрам экзэкутыўнага камітэту фэстывалю й сябрам плянавальнага камітэту.

Беларуская прысутнасьць у фэстывалі была маніфэставаная беларускім сьцягам на плятформе аўтафургону, дзе адзначаліся нацыянальнасьці — піянеры штату Нью Джэрзі ды сьцягам на трыбуне ўдзельнікаў фэстывалю. Адзначаныя Беларусы былі й тым, што адзін із старэйшых жыхароў гораду Ньюварку Іван Кузік з Горадзеншчыны прыехаў сюды ў 1904 годзе.

У трэйці дзень фэстывалю грамада прыблізна сем-восем тысячаў народу чакала „Віхра". Для гораду гэта было ўпяршыню, а нашыя эмігранты зь перад Першай сусьветнай вайны таксама ніколі ня чулі беларускіх артыстых. І „Віхор" надзеі апраўдаў.

**В. Зубкоўскі**

# ЖАНОЦКАЯ СТАРОНКА № 8

## ЖАНЧЫНЫ Ў ЖЫЦЬЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА



**Марылька Багдановіч — матка Максіма**

Жыцьцё Максіма Багдановіча было кароткае, але эмацыянальнае, калярытнае, хоць адначасна й пакутнае. Ён патрапіў яго запоўніць сьмелай ідэяй: паказаць на фактах, што беларуская мова ня ўступае ў мастацкай літаратуры ніводнай мове высака цывілізаваных краінаў сьвету. А каб давесьці гэта, ён узяўся за працу сыстэматычна, зацята, не зважаючы на тое, што здароўе вельмі рана пачало хістацца. Спатрэбілася вялікага хаценьня й бязьмежнае любасьці да Бацькаўшчыны ды глыбокае веры ў творчыя сілы беларускага народу, каб гэтай ідэі застацца верным да самае сьмерці, якая гэтак хутка яго забрала.

Максім Багдановіч нарадзіўся 27 лістапада 1891 году, а ў 1917 годзе пакінуў гэты сьвет на 26-ым годзе жыцьця.

За дзесяць гадоў ён выканаў сваё заданьне. Трэба дзіву давацца, як ён патрапіў гэтую волатаўскую працу выканаць, скуль чэрпаў сілы? А быў-жа ён ня толькі паэтам, але й публіцыстым ды пэршым беларускім прафэсыйным літаратурным крытыкам. Ува ўсім гэтым памаглі яму: прыродная спадчына ў ягоным характары ды добрыя людзі, якія на ягоным жыцьцёвым шляху траплялíся, а паміж імі найбольш жанчыны, пачынаючы ад маткі Марылькі, сястры бацькі Марыі Багдановіч, хроснай маткі — Вольгі Сёмавай, ды сваім настаўніцам і сябром із школьнае моладзі, прыкладам, сям'і Какуевых (школьныя калегі ды іхныя сёстры), а яшчэ пазьней — Беларусы з рэдакцыі „Нашае Нівы" ды прыяцелі зь Вільні й Менску.

Ці шмат дапамог бацька — настаўнік ды зьбіральнік этнаграфічных матарыялаў і беларускага фальклёру, ачытаны й абазнаны з клясычнай сусьветнай літаратурай? У справе агульнае адукацыі відавочна так, але ў беларускай (авалодаць мову ды ў спробах пісаць на ёй) — хіба што не. Меў ён свае засьцярогі да ўсей сям'і Малевічаў, да якой належыла ягоная першая жонка Марылька (маці Максіма), а асабліва да маці Марылькі Тацьцяны Мякота з дому Малевіч. Як Максім пачаў падрастаць, ён усё больш па характару рабіўся падобным да свае бабкі Тацьцяны: сваім неўтаймаваным тэмпэрамэнтам, запальчывасьцяй і няўстрымлівасьцяй ды няпрыняцьцем усяго таго, што ўважаў несправядлівым. Пра гэта адкрыта ўспамінае стрыечная сястра па маці Максіма — Ганна Гразнова (па маці Валасовіч). Маці ейная была сястрой Марылькі, яна наймалодшая дачка Тацьцяны Мякота. Гэтак яна тлумачыць дачыненьні бацькі да Максіма: „З гадамі гэтыя якасьці характару Малевічаў перарасталі ў характар. Ужо й сына нярэдка бацька называе „Малевічам", быццам жартам, але ўкладае ў гэты жарт ня лепшы сэнс. Цень бабкі міжвольна кладзецца ценем і на ўнука. А там, дзе цень, цяпла не адчуеш. Тады, хутчэй за ўсё закрадзецца холад. І гэты холад, відаць, адчуваў на ўсім працягу свайго жыцьця Максім. Але нідзе пра гэта й словам не абмовіўся. Скардзіцца — ня было ў характары „Малевічаў". Калі цяжка ім, яны замыкаюцца самі ў сабе, каб нікому й выгляду не падаць, што ім цяжка. Таму й сын, як засьветчыць і бацька, рэдка зьвяртаўся ... за парадамі й растлумачэньнямі да яго. А калі зьвяртаўся, дык толькі да свае хроснае маткі Вольгі Сёмавай. У дачыненьні да бацькі ён, як-бы адчуваў нейкі хвальш, а хвальшу не цярпелі „Малевічы", — так выказалася Ганна Гразнова, у сям'і маці ейнае дажывала сваё жыцьцё бабка яе і Максіма, Тацьцяна.



**Максім Багдановіч — гімназісты**

А тая Ганна ў свае юнацкія гады часта заходзіла да бацькі Максіма, Адама, брала ў яго кнігі зь ягонай багатай бібліятэкі, а Адам ставіўся да яе вельмі прыязна. Бачыла там часамі й Максіма, які хутка праходзіў праз пакой, чула ад яго толькі „Добры дзень", і ўсё. І ніколі бацька Максіма ня ўспомніў ёй пра сына, ніколі не назваў ягонага імя. Дзівілася, але ня пытала. Толькі пазьней пасьля ягонай сьмерці так моцна й балюча шкадавала, што сама не праявіла ініцыятывы й да яго не загаварыла, не хацела турбаваць.

Але ўсё-ж ён пакінуў ёй памятку: зусім прыпадкам забіраючы рэчы зь Менску пры пераезьдзе ў 1915 годзе, знайшла паміж рэчаў „Вянок" Максіма Багдановіча. Забрала яго з сабой ды пачала чытаць. За два гады перачытваючы яго, навучылася беларускай мовы ды пачала пaступова разумець ня толькі паэзію, але й літаратурную крытыку на творы Максіма, і гэтая кніга выклікала ў яе любасьць і прызнаньне да Максіма, пакахала яго ўсім сваім сэрцам, няхай сабе й позна. Ды-ж ці толькі яна адна, моцна палюбіў Максіма аграмадны лік людзей ,ня ведаючы яго ды ніколі яго ня бачучы.

Дарагія беларускія жанчыны — чытачкі газэты „Беларус", гэта з Вамі ў першую чаргу дзялюся гэтымі весткамі, што сталіся мне даступнымі пра жыцьцё Максіма Багдановіча. І хоць Вы ведаеце ды сьпяваеце некаторыя ягоныя творы, пакладзеныя на музыку, як „Слуцкія ткачыхі", „Пагоню", „Зорку Вэнэру" ды рад іншых. Шмат хто меў нагоду й пабачыць пастаноўку беларускае школкі ў Нью Ёрку „Мушка Зелянушка і Камарык насаты тварык", аднак мне так конча захацелася расказаць Вам больш, дакладней, бо-ж ведаю, што ня так лёгка дастаць тут на Захадзе адпаведныя кнігі — крыніцы гэтых вестак, якіх шмат друкуецца ў падсавецкай Беларусі. Шукаюць і знаходзяць беларускія пісьменьнікі й бібліяграфы ўсё новыя рукапісы, новыя факты з жыцьця паэты. Ды выйшлі два акадэмічныя выданьні (апрача „Вянка") творчасьці паэты. А ведаць нам пра Максіма трэба, бо тут у чужой іншамоўнай краіне веды гэтыя нам патрэбныя — і мы, як і Максім Багдановіч, апынуліся сярод чужых і наш абавязак перад бацькаўшчынай Беларусяй сугучны з роляй Максіма Багдановіча. Перахаваць нашую мову й перадаць яе дзецям. А нас-жа тут вялікая грамада, свае арганізацыі, свая прэса ды, хоць і ня ўсюды, беларускія школы. Таму нам лягчэй, чымсьці было аднаму чалавеку — Максіму Багдановічу, што патрапіў вынесьці сваё слова і ў ім сваю праўду на сьвет цэлы. Факты зь біяграфіі й характару продкаў паэты дапамагаюць нам больш глыбей яго зразумець. Таму вось яшчэ раз успомнім пра паходжаньне й жыцьцё бабкі Тацьцяны Малевіч, па мужу Мякота. Яна паходзіла ізь сям'і сьвятара, браты вучыліся ў сэмінарыі, сёстры ў хатняга настаўніка. Тацьцяна была наймалодшай у сям'і. Яна вельмі прыгожа сьпявала й іграла на гітары. Уся сям'я часта сьпявала разам. З маладосьцяй прыйшло й каханьне: глыбокае, узвышанае, тэмпэрамантнае, але й із спрэчкамі, часта яна й сэмінарысты Рубяроўскі не размаўлялі між сабою, пасварыўшыся. І здарылася, што ў часе такое сваркі пасватаўся да Тані ўдавец, шмат старэйшы за яе Панас Мякота й яна неразважна дала сваю згоду, хоць ведала, што кахае толькі Рубяроўскага. Ейны бацька даваў ёй шлюб, але пры падняцьці Евангельля да пацалунку апускаліся ягоныя рукі, пару разоў прабаваў і ня мог падняць Евангельля.

А ўсё-ж шлюб адбыўся. Ёй было ўсяго 17 гадоў. А ўвечары прыехаў Рубяроўскі. Перасланая яму вестка пра шлюб спазьнілася, дык зьявіўся за позна ... Цяжкое жыцьцё выпала на долю маладое жанчыны. Жылі бедна на 25 рублёў у месяц, у Ігумені (цяпер Чэрвень Менскае вобласьці). Ён быў наглядчыкам Ігуменскае бальніцы. Яна стала маткаю 5-цёх дзяцей: 4-ох дзяўчынак і аднаго хлопца.

У 1879 годзе памёр муж на сухоты. Рабіла ўсё магчымае, каб пракарміць дзяцей, надрывалася ад працы, але нікому пра гэты пэрыяд не расказвала й ня скардзілася нікому. З часам дзьве старэйшыя дзяўчынкі (як ім скончылася па 7 гадоў) аддала ў дзіцячы прытулак: Марыльку (маці Максіма) і Аляк-

(Працяг на 6-ай бач.)

# НЕЗАБЫЎНАЯ СУСТРЭЧА

Адведаўшы з нагоды вясельля дачкі Ядзі Спадарства Юзі й Часлава Найдзюкоў у Лёс Анджэлесе, Каліфорнія, надарылася магчымасьць сустрэцца й зь сям'ёй Спадарства Вініцкіх (аж трох ейных пакаленьняў). Спадарыня Бэнігна Вініцкая была маёй выдатнай супрацоўніцай у ДП-лягеры ў Остэргофэне ў Заходняй Нямеччыне, інтэнсыўна дзейнай тады ў галіне харытатыўнай Беларускай Жаноцкай Арганізацыі (з мужам ейным Сьв. Пам. Аляксеем спаткацца не ўдалося, ён адыйшоў у вечнасьць). Таксама надарылася магчымасьць сустрэцца із сынамі й сям'ёй дачкі, якіх ведала з бацькаўшчыны, із унучкамі ды ўнукамі.

Адзін супольна зь імі праведзены вечар прамінуў вельмі хутка, а гутарак-успамінаў было так шмат. Прыемна было бачыць сяброў сям'і маіх былых вучняў ды іх самых: Славіка й Лёню (прабачце, Спадара Яраслава ды Спадара Леаніда). Так прыемна было заўважыць што Славік захаваў тую даўнейшую юнацкую жыцьцярадаснасьць і аптымізм зь юнацкіх часоў.

Дзеці іхныя, Сп-ні Каці й Сп-ра Яраслава: дочкі Аня й Люся ў гэтым годзе абедзьве выйшлі замуж. Прыгожыя, сымпатычныя, як мне здавалася, ўсё яшчэ поўнасьцяй не асэнсавалі зьмены ў іхным жыцьці.

Даўжэй мне давялося пагутарыць із старэйшай дачкой Аняй, абітур'енткай камэрцыйнага каледжу. Калі я яе запытала, якія ейныя пляны на будучыню ў ейнай прафэсыі, энтузіязму ў яе ня выклікала. Нейкая абыякавасьць адчувалася. Затое ў галіне мастацкай яна вялікая энтузіястка. Аня мае тонкі мастацкі густ і замілаваньне ў вышываньні. На сьценах пакояў бацькоў, дзе яна яшчэ ў часе майго прыезду жыла (у той час, калі ейны муж Марк Лярывіер абсталёўваўся на працы ў Вашынгтоне), сьцены завешаныя надзвычайна прыгожымі вышыванымі каляровымі абразкамі, пераважна, кветак, тут і кошык зь яблычкамі, розныя травы — так жыва перададзеная прырода. Трэба спадзявацца, што, жывучы ў Вашынгтоне, далучыцца яна да беларускае калёніі.

На залучанай тут фотаздымцы Аня зь левага боку, яна дружка нявесты сястры Люсі, якая першай выйшла замуж: у канцы студзеня сёлета. Сёстры розьняцца з выгляду: Люся сьветлая бляндынка, Аня брунэтка. Шлюб Ані адбыўся ў вадной з найпрыгажэйшых катэдраў Лёс-Анджэлесу: праваслаўнай (грэцкай) катэдры Сьвятой Сафіі. Пяяў катэдральны хор.



**Аня й Люся з дому Вініцкія**

Вясельлі абедзьвюх дачок мелі месца ў вадным з павільёнаў будынку Цэнтру Мастацтва імя Дароты Чандлер (гэта вялізны будынак, дзе канцэнтруецца ўсё культурнае ды ўсё мастацкае жыцьцё Лёс Анджэлесу: там выдаюць узнагароды „Оскар", там месьціцца опэра ды адбываюцца культурныя сустрэчы й імпрэзы). Люся засталася жыць у Лёс Анджэлесе на радасьць бацькоў.

Добра ўзгадавала маці Сп-ня Каця Вініцкая сваіх дачок. Люся была старшынёй Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Лёс Анджэлесе, напэўна будуць радыя бачыць яе на гэтым становішчы сябры арганізацыі й цяпер. Абедзьве дочкі належалі да беларускае танцавальнае групы „Мяцеліца", а на канцэртах-акадэміях, ладжаных з нагоды адзначаньня нацыянальнага сьвята — угодкаў 25 Сакавіка, выступалі з дэклямацыямі беларускіх вершаў.

Стала цікавіліся й чыталі, ды й цяпер тое-ж працягваюць, часапіс моладзі „Беларускую Моладзь" ды заносілі яго ў сваю школу, дзе вывешвалі на дошцы, каб амэрыканскія сяброўкі маглі пазнаёміцца зь ведамі пра Беларусь на ягоных бачынах.

Я мела нагоду заабсэрваваць, як яны ўспрымалі беларускія народныя песьні, якія выконваў у іхным доме ў той вечар Данчык Андрусышын. Так і выпісалася на іхных тварах: захапленьне, сэнтымэнт ды любасьць да народнае спадчыны таленавітага нашага народу. А калі песьня заціхала, прасілі: болей, яшчэ! І гэтым разам ня скупіўся ў сваім рэпэртуары сьпявак, сьпяваў доўга й надзвычай удала, відаць, такая ўдзячная аўдыторыя на яго ўзьдзейнічала. Той вячэрні канцэрт застанецца доўга ў памяці і гаспадароў, і гасьцей.

На ўсё прыходзіць канец. Із сумам разьвіталіся мы ньюёркаўцы — я ды дачка мая Раіса із старымі й новымі знаёмымі ды жадалі ўзаемна,каб Бог дазволіў сустрэцца яшчэ.

**Зінаіда Станкевіч**

# ЖАНОЦКАЯ СТАРОНКА № 8

(Заканчэньне зь 5-ай бач.)

сандру, і хлопчыка, які там хутка памёр. Засталіся пры маці Стэфа й найменшая Анюта. Адзін з шукальнікаў няведамай спадчыны Максіма Багдановіча пісьменьнік Алесь Бачыла, які гады прысьвяціў на гэтыя пошукі, адведваючы пару разоў сына Адама Багдановіча Паўла (ад трэйцяй неафіцыйнай жонкі Аляксандры Мякота) і пераглядаючы ў яго куфры Багдановічаў (Адама й Марылькі) у прыватнай шкатулцы Марылькі знайшоў горадзенскую газэту „Гродненские Губернские Ведомости", № 102 за 29 сьнежня 1893 году, а ў ёй артыкул „Накануне Калядаў" (у расейскай мове), падпісаны ініцыяламі М. Б. (Як пазьней устаноўлена, Марыя Багдановіч — З. Ст.). У ім дачка Марылька знаёміць нас лепш, як найлепшы пераказ з жыцьцём свае маткі.

„Ні ў ваднэй зь беларускіх бібліятэк няма гэтага нумару газэты, пра яго існаваньне ня ведаюць навет і тыя, хто вывучае творчасьць Максіма Багдановіча", — выказаўся гэтак Алесь Бачыла пра знаходку. А пра тое, што гэта апавяданьне й ёсьць напісанае Марылькай, прачытаў пазьней з успамінаў Адама Багдановіча. „Адзінае апавяданьне, што захоўваецца ў матарыялах, ёю напісанае, паказвае ,што яна валодала талентам маляўнічасьці, зь яе магла-б атрымацца добрая пісьменьніца". І пісьменьнік Бачыла цытуе ўрыўкі з гэтага апавяданьня („часапіс „Маладосьць", № 6, за 1969 год у артыкуле „Скарбы куфра Багдановічаў"). Вось некаторыя з гэтых урыўкаў:

„Ня раз у роспачы білася яна галавой аб халодныя сьцены свайго ўбогага заканурка, просячы ў Бога сьмерці, абы толькі ня чуць гэтага дзяцінага ляманту, што раніць душу, аб хлебе! Ня раз, заламаўшы рукі ў сьмяротнай тузе, яна, як шалёная, кідалася па пакоі, шукаючы й не знаходзячы выхаду із свайго палажэньня! Як той, хто тоне, хапаецца за саломінку, так і яна хапалася за ўсякую магчымасьць раздабыць якую-небудзь капейку: за работай не адрозьнівала дня ад ночы, шыла й мыла на паноў і ўсяк дагаджала іхнай прыслузе, ад якой нярэдка залежала атрыманьне заработку. О, яна не баялася працы! Яна то задыхалася ў душнай, як лазьня, пральні, то мерзла на рэчцы, палошчучы бялізну, то сьляпіла вочы за вышываньнем або вязаньнем, не адчуваючы змучанасьці й не заўважаючы, як згасалі ейныя сілы й здароўе . . ."

Гэраіні апавяданьня хочацца пад Новы Год узрадаваць дзяцей падарункамі ,а грошай няма. І яна пастанаўляе расстацца із шлюбным пярсьцёнкам, каб сказаць дзецям, што й ім Хрыстос прынёс апоўначы падарункі. Але пярсьцёнка прадаць не ўдалося. Большы сын, Міша, не дачакаўшыся абяцанага падарунку, думае, што Хрыстос заблудзіўся, не знайшоў іхнай хаты, і намаўляе меншага брата, Колю, пайсьці шукаць яго.

„Дайшоўшы да канца вуліцы, яны раптам астанавіліся як укопаныя перад вялікім аднапавярховым домам, што глядзеў на іх усімі сваімі шырокімі, зырка асьветленымі вокнамі. Вялізарная заля, уся залітая сьвятлом, была відаць, як на далані. Пасярэдзіне красавалася ўся ў вагнёх, багата абсыпаная золатам і серабром, убраўшыся ўва ўсе колеры вясёлкі, раскошная ялінка. Спад кажнай ейнай галінкі выглядалі апэльсыны, яблыкі, гарэхі, рознакалёрныя каробачкі, а на самым версе, як быццам зьбіраючыся ляцець, растапырваў свае сярэбраныя крылы ангел.

. . . Міша . . . сударгава ўхапіўся за выступ сьцяны, прыліп да шкла сваім пасінелым ад сьцюжы тварам і шырака раскрытымі вачмі так і ўпіўся ў вобраз, што ўзьнік перад ім і проста насупраць яго, амаль ля самага акна, стаяў цудоўны гняды конік із запраўднай шэрсьцяй і грывай; а перад ім на кукішках сядзеў хлопчык ягоных год і аднэй рукой гладзіў коніка па сьпіне, а другой — стараўся запхнуць яму ў рот пернік.

Ды гэта-ж мой конік! — прамільгнула ў галаве ў Мішы: — Я гэткага якраз хацеў мець. Як-жа ён папаў сюды? І ён хацеў закрычаць, каб аддалі яму ягонага коніка, але сумна спанатрыўшы, што гэта было-б бескарысна, ён паўстрымаўся ад крыку.

Тут яго ахапіла роспач: твар ягоны зморшчыўся, як быццам ад вялікага нутранага болю, вочы зьежыліся й усё ягонае маленькае цельца закалыхалася ад непаўстрыманага плачу . . ."



Марыя Багдановіч — сястра бацькі Максіма

Засталося спыніцца канкрэтна на найбліжэйшых Максіму Багдановічу жанчынах, што яго ўзгадавалі: маці ды цётцы Марыі Багдановіч, фотаздымкі якіх пададзеныя пры гэтым артыкуле. Маці Максіма ад 7-мі гадоў жыла ў дзіцячым прытулку ў Менску. Аднак ёй паспрыяла доля: на мілую, рухлівую дзяўчынку зьвярнула ўвагу апякунка прытулку жонка губэрнатара Пятрова. Яна прыняла яе ў свой дом і паслала вучыцца ў жаноцкую спэцыяльную школу, а па заканчэньні якой у Пяцербург у жаноцкую настаўніцкую школу.

Марылька бязумоўна вельмі шмат скарыстала з гэтай навукі, аднак тае школы не закончыла й вучэньне сарвала. А сталася гэта так: Аднойчы на вакацыях у Менску пазнаёмілася з Адамам Багдановічам і хутка сталася ягонай жонкай, „не дачакаўшыся заканчэньня настаўніцкай школы . . . ды нецярплівасьць параджае й новую неспадзеўку: у яе павінна быць дзіцё . . . і таму пакідае Пецярбург", — так расшыфроўвае й карэктуе непраўдзівую згадку мужа Адама, што быццам ейны атэстат аб заканчэньні школы загубіўся. Дык мара ейнае маці, што калі вывучыцца Марылька й пачне працаваць як настаўніца, забярэ яе з багадзельні, дзе пазьней апынулася гаротная маці, ня збылася. „Усё жыцьцё маці Марылькі крыўдавала на Адама за тое, што ён сарваў Марыльку з вучобы", — скажа — пра гэта Ганна Гразнова.

На доўгія гады давялося маці заставацца ў багадзельні. Марылька хацела забраць матку да сябе, але ейны муж не пагадзіўся. Аднак маці ніколі не дакарала дачку за гэта. Выгляд Марылькі вобразна апісаў муж: „Нязвычайная жывасьць, пачуцьцёвасьць ды рухлівасьць — галоўныя рысы ейнага характару. Заўсёды вясёлая зь іскрыстымі вачыма ды зь вялікай касой, яна мела пры гэтым і грацыю коткі . . . была як бліскучае сьпеўнае жыцьцё, яна — гэта рух, радасьць і захапленьне . . ." Замуж выйшла Марылька, як мела 19 год, муж — 26. Яна нарадзілася ў Ігумені, а памерла ў 1896 годзе ў Горадні, пражыўшы 27 гадоў (дзіўна: амаль столькі, колькі й Максім). Дзяцей мела чацьвёра: трох сыноў і дачку. Сыны Вадзім (нар. 1890 у Менску), Максім (1891 у Менску), Лёва (1894 у Горадні) і дачка Ніна (1896 у Горадні). Пасьля нараджэньня Ніны цераз месяц захварэла маці, ніякія лекі не памагалі, а 4 кастрычніка яе ня стала, памерла на сухоты. На зьмешчанай фатаграфіі яна перад нараджэньнем дачкі (тады-ж падстрыгла сабе валасы).

Марылька была выдатнай маткай, яна моцна любіла й добра ўзгадоўвала дзяцей. Абставіны жыцьця, асабліва ў Горадні былі спрыяльныя. Жылі там на прадмесьці, быў свой садзік, а вонках палі ды блізка лес і Нёман. Маці нікому не давярала дзяцей і не адлучалася з дому. У іхным узгадаваньні прабавала ўжываць Фрэблеўскую мэтоду (Фрэбэль — ведамы нямецкі пэдагог XIX стагодзьдзя), але розныя каляровыя шарыкі ды кубікі мала памагалі, дзеці настойліва дамагаліся, каб іх бралі на рукі. Марылька часта выдумляла розныя гульні й сама ў іх удзельнічала. Дзеці заўсёды сьмяяліся, шумелі, бегалі. Асабліва скорым да сьмеху быў Максім, часта пераходзячы ў плач і, наадварот, з плачу ў сьмех, і гэта ад дзяцінства. Рэдка бязь сьмеху мог ён нешта пераказаць, заўсёды знаходзіў нешта сьмешнае. Сьмяяўся й пазьней у школе, калі сам адказваў настаўніку, сьмяяўся, калі адказвалі іншыя, за што яму й даставалася ад настаўнікаў. Дзеці Марылькі былі шчасьлівыя й здаровыя ў дзяцінстве.

Памерла раптоўна Марылька. Апошняе ейнае слова было: „Сьвятара!". Хутка пасьля гэтага сканала. Пры ёй былі тры асобы: доктар, сястра Адама Марыя, якая прыехала з Адэсы, каб замяніць дзецям матку, ды Дарка, дзяўчынка, якую Марылька вучыла і ёй апякавалася — усе трое плакалі. Дзяцей ня было відаць. Тады знайшоў бацька Максіма: „Як цяпер бачу Максіма, ягоную пахіленую фігурку з сумным выразам тварыку, з паглядам, што як быццам пытаўся: Што сталася? . . . Ён увесь час паслушна сядзеў на крэсьле й сьмерці маці ня бачыў", — успамінаў пазьней бацька.

Матку замяніла другая Марылька — Марыя Ягораўна Багдановіч. Трох сясьцёр меў Адам Багдановіч: Магдалену, Паўліну й Марыю. Фатаграфія Марыі ў беларускай народнай вопратцы зьмешчаная пры гэтым артыкуле.

Бязумоўна, Адам Багдановіч кахаў сваю жонку, ён шкадаваў і ейнага маладога жыцьця, і дзяцей, але характарам сваім быў практычным прыстасаванцам. Вось ягоныя словы пасьля пахаваньня жонкі: „Я сьпяшаўся пакончыць з гэтай першай і жудаснай катастрофай у маім жыцьці, катастрофай, якая прынесла з сабой і спрычыніла рад іншых катастрофаў; сьпяшаўся, каб пакінуць яе ззаду, за плячыма, каб яна не засланіла сабой сьветлых мамэнтаў жыцьця". Хутка пасьля сьмерці Марылькі Багдановіч із сям'ёй пераехаў у Ніжні Ноўгарад. 4 кастрычніка 1896 году памерла жонка, а 25 кастрычніка ўжо атрымаў Адам загад пераехаць у Ніжні Ноўгарад, куды й пераехаў у палавіне лістапада таго-ж году.

Дзьве сястры Адама жылі ў Ніжнім Ноўгарадзе. Асабліва сястра Магдалена захоўвала ў сваім сямейным жыцьці беларускія традыцыі й абрады — Дзяды, Каляды, Масьленку. Яна мела прыгожы голас і часта сьпявала беларускія песьні, якія калісь навучыла іх маці й бабка. І хоць у сям'і панавала расейская мова, але прынагодна Максім чуў там і беларускія прыказкі й песьні.

Дык дзяцінства Максіма, дзякуючы апецы маці ды Марыі Багдановіч, працякала бяз болю й дэпрэсіі. А ад цётак і пачаў ён засвойваць першыя беларускія словы, пачаў карыстацца кнігамі з бацькавай бібліятэкі, спачатку чытаў прыказкі, байкі й песьні, а пазьней паступова й вершы. І гэта ён рабіў незаўважана, бацька гэтым ня цікавіўся й ня ведаў пра гэта, а ў 10 гадоў пачаў пісаць першыя арыгінальныя вершы. І тут узноў выпадкова спаткаўся із сваёй хрэснай маткай, якой і даверыў свае першыя творы. Пра гэта й першыя сумныя перажываньні ў галіне каханьня будзе ў наступнай „Жаноцкай Старонцы" — хутка!

**Зінаіда Станкевіч**

*З самых юных, дзявочых гадоў,*
*Слаўлю меч, паважаю кудзелю,*
*Кожны зьмест з сэрца вырваных слоў,*
*То народу жыцьцё і надзеі.*

*Наша доля кудзеля і лён,*
*Нітку віць зь недапрадзенай шпулі,*
*Вартаваць-бы адвечны агонь,*
*Казкі, песьні забытых бабуляў.*

*Дом — адвечная доля жанчын,*
*У час ліхі для народу і грозны,*
*У нас мужчыны ўздымалі мячы,*
*У вабароне краіны і гнёздаў.*
*У кволых пальцах мяча ня ўтрымаць,*
*Ён для сільных, мужчынскіх далоняў.*
*Нам радзіць і ня нам забіваць,*
*Узгадаваўшым жыцьцё ў сваім лоне.*

*Усё-ж мы апора, мы, Брацьця, пры Вас,*
*У цяжкой долі надзейная помач,*
*Зьдзекі лёсу ўмеем стрываць,*
*У бядзе здольны выстаяць поруч.*

*Сэрцам мёртвых патрапім збудзіць*
*І агонь ажывіць ў папялішчах,*
*І, як Лада, аддана любіць*
*Свае пушчы, свае гарадзішчы.*

*Грознай лютасьці ведаем сеч*
*І ў вадчаі ля Вас не застогнем,*



*Калі з рук Вашых выпадзе меч,*
*Мы падымем яго ў вабароне.*

*Нам радзіць і ня нам забіваць,*
*У нас мужчыны дубы, мы — лозы,*
*Усе-ж гатовыя львіцамі стаць,*
*Калі нішчаць нам землю і гнёзды!*

**Вышэй зьмешчаны верш Ларысы Геніюш. Фатаграфія атрыманая ад сяброўкі паэткі з Прагі Чэскай.**

## ЭМІЛІЯ ПЛЯТЭР — БЕЛАРУСКАЯ ПАЭТКА

Перада мною кніжка „Таямніцы старажытных сховішчаў" Адама Мальдзіса, выдадзеная ў Менску ў 1974 годзе. Чытаць яе — гэта свайго роду падарожнічаць з прыгодамі, як-быццам ісьці па лябірынце, трымаючыся за нітку з клубка Арыядны.

Падзіўляю ўпартасьць, наважанасьць і зацятасьць Адама Мальдзіса — шукальніка ў архіўных сховішчах ня толькі Беларусі, а й у суседзяў, праўды пра мінуўшчыну бацькаўшчыны, а перадусім веліч ахвярнае працы, што ўклаў гэты шукальнік, каб разгубленае па сьвеце адшукаць, што ўзбагаціла літаратурна - культурную спадчыну народу. Былі ў кніжцы й ня ведамыя мне, ды хіба й іншым, новыя сэнсацыйныя знаходкі. Аднэй зь іх і хачу тут падзяліцца з чытачамі. Яна — гэта тэма артыкулу: „Беларуская паэтэса" ў Мальдзісавай кніжцы. А пачынаецца ён прыпамінам сюжэту верша Адама Міцкевіча „Сьмерць Палкоўніка" (мне прыпамінаецца, быццам верш той называўся проста „Эмілія Плятэр") пра патрыётку-дзяўчыну — Эмілію Плятэр, якая, каб змагчы прыняць удзел у збройным змаганьні, пераапранаецца ў мужчынскае адзеньне ды ваюе разам з паўстанцамі ў 1831 годзе супраць царскага войска. Паводля верша, яна загінула тады ад кулі.

Пра гэты выпадак расказаў Міцкевічу Ігнат Дамэйка, — як інфармуе Мальдзіс. Гэта той Ігнат Дамэйка, сваяк Марылі Верашчакі, першае сваё каханьне да якой гэтак паэтычна апяяў Адам Міцкевіч. А зь Ігнатам Дамэйкам напэўна мусіў спатыкацца Адам Міцкевіч у Тугановічах.

Ня першы раз закранутая была Міцкевічам тэма дзяўчыны-патрыёткі, што загінула за свой народ. Гэтаксама й Гражына ў паэме пад такім-жа загалоўкам пераапранаецца ў мужчынскую вопратку й бярэ ўдзел у збройным змаганьні. Яна лідчанка, жонка Лідзкага князя, стаяла на чале змаганьня за народ, хіба-ж беларускі.

Але вернемся да Эміліі Плятэр, пра якую дзеліцца з намі ў тым кароткім артыкуле Адам Мальдзіс. Ён чэрпае пра яе весткі з кнігі Д. Цяпенькі-Зялінскай, якая гэтак напісала пра Эмілію Плятэр: „Жывучы ў Віцебскай губэрні яна душой аддалася беларускаму народу", зьбірала й запісвала народныя песьні. Потым „сама спрабавала іх насьледваць у арыгінальных вершах".

Паводля зацытаваных у кнізе Д. Цяпенькі-Зялінскай успамінаў віцябляніна Максымільяна Маркса, Эмілія Плятэр часта бывала ў Віцебску й у кажны свой прыезд іграла на фартэпіяне беларускія мэлёдыі, танцавала „Лепятуху". Маладой аматарцы ўдавалася „перадаць жывасьць і тугу народных матываў і навет тэмбры жалейкі й басадуды". Гасьцюючы ў Віцебшчыне, Эмілія Плятэр таксама знаёміла прысутных зь беларускімі „галашэньнямі". Адно зь іх, пра рэкрутчыну, пачыналася гэтак:

Авой, авой, дзяцюк ты мой!
Не на радасьць, не на шчасьце
Ты радзіўся!

Ідучы па сьлядох Філяматаў, паводля Д. Цяпенькі-Зялінскай, Эмілія Плятэр прабавала „стылізаваць, тварыць" народныя песьні. „Значыць, яе можна лічыць беларускай паэтэсай", — канчае Адам Мальдзіс.

Я маю толькі адну засьцярогу да наагул каштоўнага артыкулу Адама Мальдзіса. У ім ён піша: „Сяньня я даведаўся, што нацыянальная гераіня **польскага народу** была яшчэ і . . . беларускай паэтэсай".

На мой пагляд, вышэй сказанае зьяўляецца немагчымым, яно поўнасьцяй супярэчлівае. Эмілія Плятэр магла добра ведаць польскую мову й ужываць яе. Можа яна, як і Адам Міцкевіч, называла сябе „Літвінкай", што ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага дый пазьней было раўназначнае зь беларускім. Ды ці-ж можна сабе ўявіць той факт, каб прыроджаная Полька захаплялася беларускім фальклёрам, як сваім родным, вывучала яго й культывавала? Ведаючы добра Палякаў на нашай этнаграфічнай тэрыторыі, я ўпэўненая, што **не.** Называць нашую зямлю польскай — гэта Палякі рабілі тады й робяць сяньня вельмі лёгка, як таксама лёгка апалячваюць беларускае жыхарства, што апынулася пад іхным панаваньнем, часта апалячваюць прымусова.

Ці было гэта сказана Адамам Мальдзісам сьведама ці выпадкова, я ўсё-ж дзіўлюся, як мог гэткі адданы беларускі шукальнік праўды ў мінуўшчыне, разьмінуцца зь ёю ў сучаснасьці?

**З. Аўсянік**

## ПАДЗЯКА

Паважаныя Чытачы! Колькі слоў для Вашае ўвагі: найперш хачу шчыра падзякаваць тым чытачкам і чытачом, якія да мяне зьвярталіся пісьмова ці тэлефанічна, выказваючы свае заўвагі, ці прызнаньне за рэдагаваньне „Жаноцкай Старонкі", бядавалі за перарыў у ейным зьяўленьні ды заахвочвалі весьці справу далей.

Але супрацоўніцтва Вашае было мінімальнае. Дык цярпліва чакаю на Вашыя адказы на мае лісты ў гэтай справе. Адгукнецеся, дарагія, бо-ж у гурце й супрацоўніцтве нашая сіла!

**Зінаіда Станкевіч**

